Пра назоў ‚Беларусь' („Полымя" № 1, 1968 г.)

Калі неаднаўчы былі спробы аднавіць назоў „Крывічы", каторы ў дванаццатым стагодзьдзю быў агульна-нацанальным, то прынцып быў той самы — аднаўленьне свайго праўдзівага назову. Хацелі аднавіць назоў „Крывічы", а ня „Літва", бо гэтаму перакажала тое, што Жмудзь, прыняўшы станаўко падсуваны ёй Масквою гэты назоў, за 20 год свайго незалежнага быцьця, пашырыла яго як свой у сьвеце; зн., затым ня прымалі назову „Літва", каб замест нашага народу не разумелі Жмудзі. Цяпер мы здагадаліся, што можна, пакуль гэта патрэбна, ужываць гэтага назову ў хорме „Вялікалітва", не мяняючы і ў чужых мовах яго часьці „Літва"; а значаньне „Вялікаліцьвін" і прыметнік „вялікалітоўскі" даваць так, як гэта вымагаецца ў чужых мовах ад слова „Літва". Прыкладам у мове ангельскай будзе гэтак: Вялікалітва — Greatlitva, Вялікаліцьвін — Greatlitvan, вялікалітоўскі — Greatlitvan. Там, ідзе й гэтага недаволі, у дужках дадаваць Bielarus', Bielarus (але не Byelorussia, Byelorussian, бо гэтае хормы — „Беларасія", „беларасійскі" — мы ніколі ня ўжывалі навет прыняўшы ўрынены нам назоў „белорусы").

А як прыйдзе час, што назоў „Літва" ня будзе нас мяшаць із Жмудзьдзю, або такое мяшаньне ня будзе нам шкодзіць, бо ня нас будуць мець за Жмудзь, але Жмудзь за нас, тады будзем ужываць свайго назову ў хорме „Літва". Але й „Вялікалітва" — назоў харошы сваёю хормаю.

Мы не аднаўляем назову „Вялікалітва", бо ён (у хорме „Літва") існуе ў ладнай часьці народу нашага дагэтуль, але толькі аднаўляем яго агульную пашыранасьць, агульнае ўжываньне.

Ведаем, што мы, эміґраца, ня можам здойсьніць такога аднаўленьня, але прыгатуем ґрунт да гэтага й пакажам, што, апрача ўрыненага нам назову, каторы пярэча нашай апрычонасьці, маем назоў, што сьцьвярджае нашу апрычонасьць.

Ё й другі бок шкоднасьці назову „беларусы, беларускі" — пад імі звычайна разумеюць на чужыне ня нас, а Расійцаў і ўсё расійскае.

„А вось, што да мовы „Веча", то тут справа — даруйце — дрэнь!" кажа Качанскі. Прачытаўшы гэта, імне ўспомнелася маё маленства, калі я вучыўся ў царкоўна-прыходзкай школе ў Барунах, Ашмянск. пав. Там за кажнае „простае" слова, на лекцы сказанае, вучыцель крычэў: „Дрянь!", „балбес!", „олух Царя небесного!" (ня ўсе за адзін раз). Нярэдка разам із гэтым быў выцень

па відзе. У школах народных было лепей, але ня ўсюдых, у некаторых на'т горай. Адну з такіх школ апісаў М. Гарэцкі ў павесьці „Ціхія песьні”, у Менску, 1926.

Качанскі ня любе гэткіх слоў: місьцюк (у яго абмыльна: місюк), надабе, сыбота, цямка. Затым іх гэтта разгледжу.

**місьцюк** — злостный, злонамеренный вредитель. Маркоўцы Вялейск. пав. Што табе, дудар, прысьпела шчыру песьню завадзіць? Ці то лёгкае, брат, дзела нашу брацьцю пабудзіць? Крыкнуць на цябе паноўе, што ты шкоднік і місьцюк. Васілеўскі („Полымя”, 1929, № 6, б. 184). Ціж ня добрае гэта слова? Яно лепшае за рас. „злонамеренный вредитель”, бо ў гэтым два словы да выказаньня аднаго пайма, ды „вредитель” — макядонскае (ц. сл.). Што сп. Качанскі суле замест „місьцюк”?

**надабе** — таго значаньня, што „трэба”. „Надабе” ладне пашырыўшыся, меж іншага ў Дзісеншчыне, а што ня ўсюдых, дык і „трэба” таксама ня ўсюдых ужываюць, ды яно ж — полёнізма.

**сыбота,** запісана ў Лідзкім а Рэчыцкім пав., ё ў слоўніку Янкоўскага, часьць I. Досыць часта сустракаецца. Прыклады: Наступное сыботы ўсі бачылі, як у сельрадзе да познае ночы гарэў агонь („Бацькаўшчына”, № 36-37/115-116.) Із сыботы на нядзелю дакацілася далёкая страляніна. Дудзіцкі (Тм. № 49-50/435-436). Ё й м. Сыботнікі ў Лідзкім пав. Замест „сыбота” сустракаецца й „субота”, але чаму канечне гэтая хорма мае быць ужывана? Ці затым, што гэтак і парасійску („суббота”)?

**цямка — 1.** помниться. Нсл. (слоўнік Насовічаў) 694 I recollect. Цямка імне, як ён гэта казаў. Нсл.

**2.** заметно. sensibly. Пр. цямкі 4. В. ст. цямчэй. Сюды цямчэй ісьці. Нсл. 695.

**3.** ловко, удачно (метко С.). Нсл. 694. skilfully, successfully. Цямка хапіла стрэльба: тры вуткі забіла. Нсл.

**цямкі** (цямкі Пц.) — **1.** понятливый. Ксл. Які цямкі — раз паглядзеў і ўжо наўчыўся. Падданы Сян. (Ксл.). Ты, відаць, хлапчына цямкі. Сымон Музыка, 182.

**2.** сообразительный. Шсл. combining. Цямкі ён хлапец: адразу ськеміў. Ст. Цямкі хлапец! Зараз сьцяміць, што яму пакажаш. Нсл. 694.

**3.** (цямкі) приметливый (наблюдательный, способный наблюдать, запоминать С.). Нк.: Очерки, № 454), внимательно присматривающийся, подмечающий что-л.; владеющий верным зрением. Тм., № 91.

**4.** заметный visible, perceptible. Цямкая гэта сьцюгавінка. Пц.

**5.** памятливый. Нсл. 694. having a good memory. Цямкі ты на ліха. Нсл.

**6.** памятный. Нсл. 694. memorable. Цямкая справа. Нсл. Гэта ноч будзе цямкая нам. Тм. **Цямшы,** в. ст. (да цямкі 1, 2). **1.** Ты цямшы за мяне. **2.** более заметный. Пойдзем валей цямшаю дарогаю. Нсл.

**цямкі**-мок, мн. л. — глазомер. Нк.: Очерки, № 219. measuring with the eye. **На цямкі** — на глазомер. Нк.: Очерки, № 454. by sight. Браць або йсьці нацямкі — делать наугад, напролом, идти напрямик. Тм. № 91. Паехаў на цямкі. Нсл. 687.

Ё множасьць іншых слоў ад гэтага караня. Толькі вылічу іх: цямісты, цяміць (і ўтвораныя ад гэтага з прыросткамі), цяміцца (таксама з прыросткамі), цямцецца, цямкасьць, цямлівы, -васьць, цямскі. Ціж ільга ня лічыцца з усімі імі?

У дзяцінай чытанцы было паведаньне „цямлівасьць мурашак".

Дзеля добрае мовы Качанскі радзе „чытаць і перачытваць творы Купалы, Коласа, Багдановіча, Багушэвіча і шмат іншых..." Чаму ж гэта добра, бо мова нашае эміґрацыі горшая за мову "нашаніўскіх" пісьменьнікаў і тых, што друкаваліся да 30-ых год у БССР. На першым месцу дзеля мовы надабе паставіць Максіма Гарэцкага, ён, казаў той, знаў духа мовы, вызукаў яе, чаго не рабілі іншыя; ён жа выдаў 3 слоўнікі. Зь пісьменьнікаў 20-тых год канечне надабе менаваць Касянка (мянушка Зарэцкі) побач із Гарэцкім, адлі Лынькова, Куляшова, Калюгу. Але пры чым тут Багдановіч? Ён адзін із найлепшых поэтаў, але мова ягоная благая, прыкладам, у найлепшым вершу ягоным ды малым „Пагоні" аж дванаццаць моўных абмылаў. Змалку ён жыў на эміґрацыі, у Маскоўшчыне і мовы роднае навучыўся з фольклёрных друкаў вялікалітоўскіх і часткава зь нячысьленых тады яшчэ выданьняў новае літаратуры. На гэта вымагалася шмат часу, каторага маў надта мала, бо маладым маладзёнам забраў яго Спадар Бог із гэтага сьвету.

К. чамусьці не мянуе слоўнікаў, няго ж мае іх за непатрэбныя?

Калі б мова твораў менаваных аўтараў была запраўды добрая ў даных умовах, то ўсё ж такі яе мала дзеля выпрацоўваньня мовы літаратурнае; ня толькі затым, што літаратурная творчасьць 20-тых год была спынена ў БССР грубою сілаю маскоўскаю, творы іхныя забаронены, а тварыцелі, з выняткам пары адзінак, фізычна зьнішчаны; але таксама й затым, што на пачатку 30-тых год Масква сілком урынула сваю русьфікачную „рэформу" практычнае граматыкі вялікалітоўскае, адлі й такі ж слоўнік. Дый наагул

літаратуры аднаго пакаленьня недаволі да выробленьня мовы літаратурнае. Літаратура іншых народаў, вольных, тварылася даўжэйшы час пры ўчасьцю літаратараў, публіцыстых і мавазедаў. Што ж датыкаецца народаў, як наш, чэскі, жмудзкі, украінскі і іншыя падобныя, каторыя былі або й цяпер ё апынуўшыся ў няволі, і каторых затым мова падпала пад чужы ўплыў, то ўчасьце мававедаў канечнае дзеля выробленьня мовы літаратурнае; бо нельга браць проста мову народную, якою яна ё ўсюдых, але надабе яе вызукаць, адрозьнюючы сваё ад чужога наноснага. Гэта добра зразумелі нашы дзеяньнікі, што працавалі роднаю моваю й над ёю ў 20-тых гадох у БССР. Тады арганізатар вялікалітоўскае слоўнікавае працы, С. Некрашэвіч, у сваім арт. „Да пытаньня аб укладаньню слоўніка жывое мовы беларускае" меж іншага пісаў:

„Асаблівасьці дарог беларускага культурнага развою ня могуць не адбіцца на беларускім слоўніку. У тым часе, скажам, як у Расіі кажнае слова, што там чуваць ад расійскага чалавека, можа быць занесена, як расійскае, у слоўнік, — у нас так рабіць ані ня можна: у нас кажнае слова, якое чуем у Беларусі і навет ад Беларуса, трэба цанаваць крытычна, трэба глядзець, ці няма там расійскага або польскага ўплыву, ці ня русыцызм або полёнізм мы чуем . . . Заданьням нашага слоўніка, апрача пазнаньня, ёсьць яшчэ й апрацаваньне нашае мовы, выявіць яе, як мову беларускую, гадзячую ня толькі да пісаньня вершаў і штадзеннага ўжытку, але й да выказаньня ёю найглыбшых навуковых праўдаў, найценшых адценьняў нашае думкі".

Тое, што пісаў С. Некрашэвіч праз словы, датыкаецца й да гукаў і хормаў як морфолёгічных, так і сынтаксычных.

Літаратары вялікалітоўскія прыходзілі да вялікалітоўскае літаратуры ад мовы расійскае, каторае былі навучыўшыся ў расійскіх школах. Яны зналі мову расійскую болей за сваю: сваю зналі толькі, колькі маглі навучыцца, звычайна недаволі, ад сваіх бацькоў. Яны народнае мовы вялікалітоўскае не вызукалі. Адзіны Гарэцкі вызукаў, і той наракаў, як гэта цяжка рабіць „ня маючы адукацы філёлёгічнае, дзеля якой у Беларусі аджа ўнівэрсытэту няма" (зь перадмовы да першага выданьня „Маскоўска-беларускага слоўніка"). У 20-ых гадох ужо быў унівэрсытэт у БССР, і нашы людзі там сталі на правільную дарогу ў справах роднае мовы, але што маглі зрабіць за колькі год такое-сякое свабоды ў галіне культуры.

Затым нашы літаратары, адныя мала, другія, прынамся, недаволі зналі народную мову вялікалітоўскую, яе нарэччы а дзялекты.

Яны ня ўнесьлі да сваіх твораў шмат слоўнікавых і іншых асаблівасьцяў мовы вялікалітоўскае. Затым казаць, як гэта вынікае зь лісту К., што імі ўсё й добра зроблена, і застаецца толькі дзяржацца таго, значыла б зачыняць вочы на праўду і чыста іґнараваць патрэбу скарыстаньня з усёга багацьця мовы народнае.

Але дыкжэ супроці гэтага груба, як маскоўскі „наставник", выступае К. Ён кажа: „Гэтаж нейкі жаргон з глухіх вёсак". У гэных клясычных творах няма „жаргону" з глухіх вёсак або з Польшчы".

Мова літаратурная, як сусім аднолькавая мова ўсіх людзёў данага народу, патрэбная дзеля лягчэйшага паразуменьня, каб ня трэ' было ўсім вызукáць кажнае гаворкі. Яна вытвараецца зь дзялектаў народнае мовы данага народу. Затым народы, маючы сваю мову літаратурную, ані ня грэбуюць дзялектамі свае мовы народнае. Усё, чаго не стаець у іх мове літаратурнай, яны бяруць зь дзялектаў а гаворак свае мовы народнае, адныя, малодшыя, болей, другія, старшыя, меней. Гэтак ё ў вусіх мовах літаратурных. І толькі, калі няма з чаго браць, тады твораць новыя словы подле прáваў свае мовы, або, калі й гэта немагчыма, пераймаюць словы чужыя. Надабе дадаць, што ніколі сьведама не пераймаюць чужых гукавых, хармальных і сынтаксычных асаблівасьцяў, бо такое перайманьне нясець загубу мове.

Калі мова паняволенага народу падпадае пад уплыў мовы свайго панявольніка, то гэта наўперад і найболей бывае ў людзёў, што найчасьцей стыкаюцца зь людзьмі пануючага народу, у мясцовасьцях, сумежных із зямлёю пануючага народу, таксама там, ідзе ўрады ягоныя й густая сетка школ ягоных, асабліва ж у людзёў болей залежных ад адміністрацы панявольніка. Затым, хочучы пазнаць мову паняволенага народу, стараюцца вызукаць яе ў месцах дальшых ад чужога ўплыву. Перад першаю сьветнаю вайною Расійская Акадэма Навук радзіла ў сваей „Праграмме" да запісу асаблівасьцяў беларускае мовы запісаваць яе асаблівасьці ў такіх месцах, — зн. дальшых ад чужога ўплыву, і ад людзёў, менш падпалых пад чужы ўплыў. А вадказе на „Праграмму" надабе было ня толькі падаць месца кажнага запісу, але й як далёка яно ад места й чыгункавае станцы, а таксама век і стан таго, у якога асаблівасьць чута. Рабілі гэта з мэтамі толькі навуковымі, а не, каб прыяць нашай мове.

Але тыя, што імкнуцца толькі зьнішчыць нашу мову, ганяць чыстыя жаролы яе, вольныя або вальнейшыя ад чужога ўплыву. Гэтак робяць расійскія шовіністычныя камуністыя ад 30-ых год. пашыраючы заразом паймо „цемных глухіх вёсак" на ўсю на-

родную мову вялікалітоўскую. Яны пастараліся адгарадзіць вялікалітоўскую кніжную мову ад яе народнага жарала, сілком урынаючы нам сваю русыфікачную нарматыўную граматыку нашае мовы, адлі й такі ж слоўнік. Заразом вымагалі, каб ўсё патрэбнае й непатрэбнае берці з мовы расійскае.*)

Што мова вялікалітоўская найлепей захавалася ў мясцовасьцях дальшых ад чужога ўплыву, або, як Качанскі кажа, „у глухіх вёсках", ён ведае, бо ў разгляданым лісьце сваім даводзе сваё знацьцё мовы вялікалітоўскае меж іншага тым, што да 20-ых год ён „жыў у глухім беларускім мястэчку Лагоўску (Лягойску?) на Барысаўшчыне". Ён няўпрыцям сабе прамовіўся й запярачыў сабе. Ён, адылі, сабе толькі гэта ведае, але хоча, каб нашыя людзі думалі, што народная мова іхная — жаргон, каторага надабе сьцерагчыся. Гэтым ён сусім згаджаецца з расійскімі шовіністычнымі камуністымі. Каб жа аніякае розьніцы ад іх ня мець, ён дадаў: „або Польшчы". Дыкжэ тых жа 30-ых год расійскія чарнасоценныя камуністыя блізу ўсё ў мове вялікалітоўскай, чаго ня было ў расійскай, звалі „польскім", дарма што ў мове польскай таго няма. Гэтым Качанскі, як кажуць, „і бубкі пабраў" у сваей згоднасьці з расійскімі чарнасоценнымі камуністымі ўзглядам Вялікаліцьвіноў. Ня мае значаньне, што, хіба, К. не камуністы, бо не затым так нягодна ставяцца да нас расійск. камуністыя, што яны камуністыя, а затым, што, будучы камуністымі, яны заразом — расійскія чарнасоценцы.

Качанскі ўважаў за патрэбнае сваё знацьцё вялікалітоўскае мовы даводзіць сваім жыцьцяпісам. Затым і я не магу абмінуць жыцьцяпісу ягонага. Ён скончыў вучыцельскі сэмінар, каторы із сваёю бурсаю быў школаю да ўзгадаваньня нашае моладзежы за расійскіх янычараў. У сваёй масе выходзілі зь яе вучыцелі русыфікатарамі. Праўда, пасьлей яны, — таксама ў сваёй масе, — улучыліся да руху вялікалітоўскага, бо былі надта блізка да карэньня народнага: бацькі іхныя звычайна ня зналі іншае мовы, апрача вялікалітоўскае. Мала было такіх, як Касьцянцін Міцкевіч або Язэп Лёсік, што не паддаліся янычарскаму ўзгадаваньню. Нішто ня сьветча, што й Качанскі не паддаўся гэнаму ўзгадаваньню, як і тога ня сьветча, што пасьлей ён ад яго вывальніўся. Ня

*) У якіх памерах і зь якім жудасным тэрорам гэта праводзілася, дый у сваёй аснове не перастала праводзіцца дагэтуль, гл. Я. Станкевіч: Моўная палітыка бальшавікоў у Беларускай ССР. (Беларускі зборнік, кн. 2, у Мюнхене, 1955, б. 44-110).

было чуваць празь якую-лень яго працу вялікалітоўскую ў БССР 20-ых год.

Пазваўшы, 1943 г., Качанскага да Менску за дырэктара тэатру, ня цешыліся з гэтага, бо ён прыехаў з маскоўскімі тэндэнцамі сваімі.

У табарах Д.П. ў Нямеччыне Качанскі паказаў добра, які ён. Ведама, што ён быў заўсёды з Маскалямі, а да Вялікаліцьвіноў ставіўся варожа. У сьпярэчках Вялікаліцьвіноў з Маскалямі заўсёды дзяржаў старану Маскалёў. Ніколі ён не праявіў зычаньня належыць да вялікалітоўскага нацанальнага груду. Сп. В. Наддзьвінскі ў варт. „22 гады таму", зьмешчаным у „Беларусе" № 163 зь лістападу 1970 г., апісаў як нягодна ставіліся Расійцы да Вялікаліцьвіноў у табару Люттэнзэе ў Нямеччыне. Ведама ад іншых, што сярод Расійцаў у гэным табару быў Качанскі, і таксама нягодна ставіўся да Вялікаліцьвіноў. Ён, як і Расійцы, быў супроці тога, каб Вялікаліцьвіны ўсьцілі сваёю адправаю Слуцкае паўстаньне. Быў і супроці помніка на чэсьць гэроеў Слуцкага паўстаньня. Як ураднікі IРО былі перакінуўшы колькі сот Вялікаліцьвіноў да гэнага расійскага табару, дык зараз Расійцы зладзілі вечар, каб заімпанаваць Вялікаліцьвіном сваёю сілаю, бо асьвятчалі „сотрём в порох вас". На „вечару" ўзьвялічалі жывых і мертвых „превосходительств", у тым ліку й Мураўёва вешаньніка. На „вечару" нічагусенькі вялікалітоўскага ня было, дарма што (ці дыкжэ затым), што дырыґентам „вечару" быў Качанскі. У канцы вечару дырыґент Качанскі, на зьдзек із Вялікаліцьвіноў абясьціў: „Теперь прапоём **национальную** белорусскую песьню „Свиньи в репе". Нічога не зьмянілася ад тога, што, пераехаўшы да табару ў Міхельсдорфе, К. за якісь час прыехаў да Люттэнзэе з тэатральным грудам згуляць „Раськіданае гняздо"; бо ня з ідэйных мотываў ён гэта зрабіў, але зь іншых меркаваньняў.

Не зьмяніўся Качанскі й прыехаўшы да Амэрыкі. Як солісты Пец. Марыінскага тэатру можа ён напяяў на кружэлкі песьні вялікалітоўскія? Не! Арганізаваў хор? Не! Іншыя, зь меншаю прыгатоваю арганізавалі. Празь яго працу вялікалітоўскую, належаньне да арганізацыяў, цэркваў вялікалітоўскіх, памогу на культурную працу вялікалітоўскую ня чуваць... Як пяяў у СССР Расійцам, так пяець ім і тут. А навучаць (рас. „наставлять") Беларусаў ён хоча.

Тое, што ён у сваім лісьце паставіў Багдановіча ў ліку першых поэтаў з добраю моваю, паказуе, што Качанскі мала знае мову нашае літаратуры. Ён проста паставіў на першым месцу

найвыдатнейшых „нашаніўскіх" поэтаў, думаючы, што й мова ўсіх іх найлепшая. Не сумляючыся, можна сказаць, што ня знае Качанскі мовы твораў Купалавых і Коласавых, каторых мову хвале, бо вось, ён надта гане „цямкі", а прымеж тога ў Коласа ё „цямкі": „Ты, відаць, хлапчына цямкі". Сымон Музыка, у Менску, 1925, б. 182. Ня знае ён, відаць, і мовы свайго Барысаўскага пав. Відаць гэта з тога, што ганенае ім „цяміць" і інш. ё ў „Краёвым слоўніку Лагойшчыны" А. Варлыгі: **цяміць** — разумець. Я ўсё цямлю, што ты кажаш. Ягоная цямлівасьць вызваліла яго ад няшчасьця.

Мова лісту К. таксама сьветча праз яго недастатнае знацьцё мовы вялікалітоўскае, напісаны ён не літаратурнаю ані чыстаю моваю вялікалітоўскаю. Гэта можна давесьці. Каб не займаць дзеля гэтага месца ў часапісе, адцемлю толькі два словы — „шматпаважаны" й „**Гаспадару** Маркоўскі". „Шматпаважаны" — даслоўны пераклад рас. „многоуважаемый". Калі каму, хто гўкае й піша заўсёды парасійску, а да мовы вялікалітоўскае ня прывыкшы, давядзецца напісаць ліст павялікалітоўску, то ён звычайна напіша „шматпаважаны". Вялікаліцьвін ня скажа: я цябе (яго, іх) шмат паважаю ,але: вельмі (або дужа, надта) паважаю.

А „гаспадар" слова вельмі добрае, але як назоў і ветлае зьвярненьне да собсьніка ралейнае гаспадаркі. Даўней нашы прашчуры, а за імі й іншыя (на'т дагэтуль) гаспадаром звалі асобу, што стаяла на чале незалежнага нашага гаспадарства, зн. ў такім значаньню, як у іншых народаў цэсар, кароль, цар. У вусіх іншых прылучаёх у гісторы народу нашага, як ветлы назоў і такое ж зьвярненьне, ужывалі „спадар", пакуль у „вышшых" станох гэтае слова ня было выцісьнена прынесеным „пан". Але ў народнай масе, у творах ейных „спадар" ужывалі дагэтуль. Цяпер адноўлена агульнае ўжываньне слова „спадар". Качанскі, ужываючы „Гаспадару" зам. „Спадáру" праводзе тэндэнцу, чужую нашай мове.

**Я. Станкевіч**

## ВАСТРАВОК ЦІ БАЛОТА.

Сп. В. В. Васілеўскі ў нумары 81 Сяўбіта выступае з радам прапановаў. Шкада што яны не дастаткова, паглыбленыя, але ўсёж некаторыя выказываньні дастаткова цікавыя і заслугоўваюць, каб ім прысьвщціць трохі часу.

Вельмі цэнным ёсьць тое, што сп. Васілеўскі (сябра Рады БНР)

адкрыта прызнае, што гэтак званая Рада БНР — гэта сяброўскае згуртаваньне. З цьверджаньнем сп. Васілеўскага нельга не згадзіцца, але нажаль да гэтага часу многія сябры „Рады" з маніяцкай упорыстасьцяй, насупроць фактаў якія гэтаму запярэчываюць цьвердзілі, што Рада БНР гэта дзяржаўнае прадстаўніцтва. Між іншым пры гэтай нагодзе трэба сказаць, што зачыняньне вачэй на факты і бязупыннае падчырківаньне сваёй вернасьці не ідэям а, асобам ці арганізацыям добра характэрызуе прымітыўны сьветапагляд многіх радных. Згадзіўшыся у адным пункце са сп. Васілеўскім бадай што болей з нічым згадзіцца нельга.

Нельга ў паасобнасьці згадзіцца з рэцэптамі сп. Васілеўскага адносна перабудовы сяброўскага згуртаваньня у палітычную арганізацыю тыпу дзяржаўнага прадстаўніцтва, бо па першае існуюць сумлівы ці людзі вярбаваныя ў арганізацыю тыпу сяброўскага згуртаваньня маюць кваліфікацыі да належаньня да арганізацыі тыпу палітычнага прадстаўніцтва. Па другое, калі нехта хоча каб ягоныя прэтэнзіі іншыя трактавалі паважна, дык у першую чаргу сам павінен адносіцца паважна да сваіх прэтэнзіяў, а было-б сьмешна спадзявацца, што нехта можа паважна трактаваць нейкую арганізацыю з прэтэнзіямі на дзяржаўнае прадстаўніцтва са сьведамасьцяй, што даная прэтэнсіяльная арганізацыя складаецца з грамадзянаў дзясятка рожных дзяржаваў — складаецца з амэрыканцаў беларускага паходжаньня, ангельцаў беларускага паходжаньня, французаў, немцаў і іншых усіх з дадаткам беларускага паходжаньня. Каб нехта аказаўся-б у Нігэрыі, дык быў бы нігэрійцам ці проста нэграм беларускага паходжаньня. Так спадары у паважныя гульні трэба гуляць паважна.

Яшчэ паміж іншым. Я ня думаю, каб шансы Чэхаславаччыны на незалежнае існаваньне былі горшымі ад Польшчы, хаця Чэхаславаччына ня мае ніводнага эгзільнага ураду, а Польшча прынамсі два.

С. Васілеўскі піша, што радным (у новай Радзе) мае быць той, хто прызнае 25 Сакавіка, але што ня ўсе такія ёсьць у Радзе. Я бы пачаў з іншага канца. Больш правільней было-б прыняць, што такіх асобаў, што прызнаюць 25 Сакавіка ў Радзе наагул няма (трэба даць у гэтым месцы скідку на тых, хто наагул не разумеюць таго якія абавязкі накладае факт прызнаваньня 25 Сакавіка і такіх у Радзе есьць многа). Сьвяткаваць раз у год гадавіну абвешчаньня незалежнасьці гэта ня тое самое, што прызнаваць 25 Сакавіка. Больш важным ёсьць ня тое хто сьвяткуе 25 Сакавіка, а тое хто чым займаецца у будзённыя дні, а сучасная Рада вызнае

непрэдрэшэнства, якое нельга пагадзіць ня толькі з незалежнасьцяй, але нават з маленькай аўтаноміяй.

Што сучасная Рада вызнае непрэдрэшэнскую ідэалегію, дык гэта-ж хіба сумлівай не выклікае і калі нехта мае ахвоту гэтаму факту запярэчыць, дык павінен сказаць, у якім моманце Рада перастала быць непрэдрэшэнскай і ў выніку якіх працэсаў перастала быць.

Застаецца фактам, што прадстаўнік амэрыканскай арганізацыі асьветчыў на публічным сходзе, што супрацоўнічае з Радай БНР і „с господином Абрамчиком" на прынцыпах поўнага непрэдрэшэнства і што кожны хто непагаджаецца з прынцыпам непрэдрэшэнства гэта экстрэміст.

Прысутныя пры гэтым „дзячы" Рады старанна прааплёдысмэнтавалі гэтае асьветчаньне, гэтаму не запярэчылі, як не запярэчылі і ніколі пазьней. Прэса „Рады" ніколі гэтай праблемай не займалася, бо не хацела бараніць непрэдрэшэнства, ня хочучы яўна кампрамітавацца, а выступіць супроць непрэдрэшэнства, ня хочучы наражацца на канфліыт з тымі хто відаць маюць нейкі уплыў на ідэалегію дзеячоў Рады.

Сказанае у поўнай меры адносіцца да галавароў Рады, якіх ёсьць з дзясятак, а большасьць Рады на сёньня — гэта асобы прызвычаеныя, каб за іх думалі іхныя правадары, а праўдападобна самыя і нязьдольныя да думаньня.

Цікава, што сп. Васілеўскі хаця выцягнуў падзеі з 1925 году, ня лічыць патрэбным прысьвяціць увагі падзеям не так далёка адлеглым у часе. Пра падобны падыход да праблемаў пісьменьнік К. Толстой напісаў:

„Ходить бывает скользко по камешкам інным.
О том что к нам есть ближе, мы лучше умолчим".

Мне здаецца, што зусім неправільны падзел на нацыяналістаў і зарубежнікаў. Падзел гэты меў сваё апраўданьне ў мінулым, але сягоньня зарубежнікі (Астроўскага) засталіся, але побач зь імі выкрысталізавалася іншая зарубежніцкая група — зарубежнікаў Абрамчыка. Такім чынам сягоньня маем дзьве ваюючыя групы, які амаль зусім ня розьняцца у аснаўных праблемах, розняцца толькі у нязначных дэталях і ў ступені зарубежніцтва.

Зарубежнікі Абрамчыка годзяцца з прынцыпам непрэдрэшэнства, гэта значыць годзяцца на тое, каб будучыня Беларусі вырашалася расейскім Учредительным Собранием — значыць гэта зарубежнікі татальныя. Зарубежнікі Астроўскага лічаць, што беларуская царква ня можа быць самастойнай і павінна кіравацца ці

то расейцамі, ці то грэкамі ці абы хоць кім, абы не самымі беларусамі. Прыкрываецца гэта ўсё канонамі і сягоньня у нас надпрадукцыя кананістаў, бо сягоньня нават тыя, што распісывацца навучыліся перад выездам у Амэрыку, выступаюць як спэцыялісты ад кананічнага права. Каб аднак задаволіць і пажаданьні існуючай сярод зарубежнікаў меншасьці — тых што ўсёж нязгодныя з гэтай канцэпцыяй падпарадкаваньня беларускіх прыходаў чужынцам (трэба сказаць вельмі паціху нязгодныя), дык час ад часу на сходах выносяцца пажаданьні і абяцаньні зрабіць лепшую аўтакефалію ад існуючай, хаця самы тыя што абяцаюць гэта зрабіць, добра ведаюць, што дзеля палітычнага заангажаваньня усіх цэркваў гэта на сёньня ёсьць немагчымым. У выконываньні гэтых абяцяньняў амаль кожны год навязываецца кантакт з епіскапамі Расейскай Зарубежнай Царквы з просьбай узяць пад бацькаўскую апеку. Мне здаецца, што лепш быць сіратою, чым быць пад бацькаўскай апекай епіскапа Апанаса з Расейскай Зарубежнай Царквы.

Фармальна непрэдрэшэнцамі зьяўляюцца толькі зарубежнікі Абрамчыка, але гэта толькі фармальна, бо і зарубежнікі Астроўскага прымалі ўдзел у спаборніцтве, якое дало пераможцам пару пасадаў і абавязак прынамсі не выступаць супроць непрэдрэшэнства. Зарубежнікі Астроўскага толькі тады пачалі выступаць супроць непрэдрэшэнства, калі выясьнілася, што яны спаборніцтва прайгралі.

Можа паўстаць пытаньне чаму гэтыя дзьве так бязідэёва блізкія групоўкі вядуць паміж сабою вайну.

Як падае І. Свіфт, Гулівэр падчас аднаго са сваіх падарожжаў быў трапіўшы ў краіну дзе былі дзьве партыі: адна партыя лічыла, што ядучы яйкі трэба іх разьбіваць із тупога канца, а другая партыя была ня менш упорыстая ў сваім пераконаньні, што есьці яйкі абавязкова трэба з вострага канца, а кожны хто рабіць інакш — гэта вораг дзяржавы.

Была-бы ахвота дзяліцца, а прычыну заўсёды можна знайсьці: знайшлі прычыны і нашыя зарубежнікі дзьвох назоваў.

Праўдападобна робіцца гэта дзеля таго каб людзі ня мелі сутычнасьці адны з другімі і праз эвэнтуальныя дыскусыі дайшлі да нейкага супольнага выснаву, што яйкі можна есьці абы з якой стараны.

Сярод Беларусоў сягоньня існуе некалькі бязсілаў — вялікшыя гэта Рады Астроўскага і Абрамчыка не цалком яшчэ самаазначаная група Мерляка, трэцяя бязсіла найканадзейшага Хмары у Торонто, ды даволі значная колькасьць незарганізаваных нацыя-

налістаў. Аб'яднаць дзьве вялікшыя бязсілы ў адну немагчыма. Базай для такога аб'еднаньня ня можа быць ані двойчы скампрамітаваная Рада БНР, ані Рада БЦР, якая хоць маладзейшая але, пасьпела скампраміткавацца вельмі хутка пасьля свайго паўстаньня.

Наагул мне здаецца ня трэба сабе рабіць фэтышоў — бажкоў, ані з мандату II Кангрэсу, які дарэчы не упаважняў зарубежнікаў Астроўскага да падпарадкаваньня, ані расейцам, ані грэкам, ані са славутага тэстамэнту, які дарэчы прасіў толькі заапекавацца архівам БНР, а не перадаваў нікому прэзыдэнскага становішча, да тагож гэтая просьба была скіраваная да дзьвух асобаў з роўнымі правамі. Трэба глядзець не на мандаты і тэстамэнты, а на тое чым даная мандатная ці тэстамэнтовая ґрупа займаецца. Ніякі мандат ані тэстамэнт не упаважняў іхных прыхільнікаў да шкоднай дзейнасьці. Да рэчы у праве існуе прынцып, што ніхто ня можа перадаць іншаму больш правоў, чым мае сам — з гэтага вынікае, што тэстамэнтны наступнік мае права і абавязак запекавацца архівам. На становішча архіварыюса наступнік бязумоўна надаецца, але да правадырства у рэлігійна падзеленым грамадзтве не, бо ёсьць прыхільнікам аб'еднаньня праз падпарадкаваньне большасьці меншасьці.

Такім чынам, калі нешта новае тварыць, а існаваньне агульна беларускага прадстаўніцтва ёсьць вельмі патрэбнае, дык трэба знайсьці нейкую супольную плятформу. Плятформу ня толькі палітычную, але у першую чаргу этычную. Перад тым як займацца палітычнымі паглядамі трэба спачатку пагадзіцца на тое, што ёсьць дабро, а што зло у грамадзкіх суадносінах, бо грамадзкае хуліганства што раз больш пашыраецца і знаходзіць што раз больш здольных вучняў. Прыкладна варта былоб выясніць ці рэвізыйная камісыя можа вызначацца асобай, якая мае быць рэвідаванай? Ці царкоўныя гіерархі могуць дамагацца ад вернікаў падпарадкаваньня ў палітычных справах? Ці большасьць мае права прысабечываць сабе маемасьць меншасьці? Ці дапушчальныя выбарныя надужыцьці? Як глядзець на фольксдойчаў, фольксайрышаў і іншых фольксаў? Такіх пытаньняў можна паставіць многа і на кожнае з іх павінен быць адказ і павінны быць выцягнутыя высновы. Скончыўшы з гэтым можна пачынаць будаваць палітычную плятформу — пэўна што застанецца вельмі мала, але-ж лепш будаваць на маленькім востраўку, чым на вялікім балоце. Як вам здаецца?

**Галяк**

**лемантар,** найпершая да навукі чытаньня кніжка, у каторай вучэньне пачынаецца з гукаў і літараў — primer, азбука, букварь. Слова можна падзяліць на **склады** — syllables слоги. На адным із складоў бывае **націск** — accent ударение.

**славатвор** — formation of words словообразование. У словах бываюць карэнь, нарасьцень, канчатак і прыростак.

**канчатак,** тая часьць слова, што мяняецца пры адмяняньню яго (сялц-о, ля сялц-а, у сялц-у) — ending окончание. Калі адыймем ад слова канчатак, то застанецца аснова (сялц) — stem основа.

**карэнь,** маючае асноўнае значаньне часьць у сваіх (блізкіх) асновах (сад, сад-ок, сад-овы, сад-авіна, сад-аўнічы)—root корень.

**нарасьцень,** часьць слова, што памеж караня й канчатку (сад-ов-ы, сад-**авін**-а, сад-**аўніч**-ы) — suffix суффикс.

**прыростак,** часьць слова, што бывае перад каранём (**пры**-сад-а, **на**-рог) — prefix префикс, прыставка.

Гэтта прывяду колькі найпатрабнейшых слоў.

**абароньнік** — defender защитник.

**абачлівасьць** — well-wishing благожелательность, внимание. Ён ізь нікога не насьміяўся, ані ўкрыўдзіў каго — вялікую меў абачлівасьць і бядзе чужой упару памагчы заўсёды ўмеў. Дудзіцкі (Бацькаўшчына, № 376-377).

абачнасьць — attention, consideration снисходительность, внимание (Шсл.; Заўшыцы Сц.). Хай мае пярэйдзе: некаліся чалавек будзе мець абачнасьць і на мяне (Ст.) — будет иметь ввиду, уважит, окажет внимание.

**абязу́рнік** — scamp шалун, озорник. Ксл. Андрэй вялікі абязурнік. Сянно (Ксл.).

**абярэмак** -мка — armfull ноша, сколько можно взять, обхватить руками. Нсл. 346, охапка. Абярэмак сена, дроў. Нсл. Таго ж значаньне **бярэма.**

**абдзёрка** — flour without bran мука со снятой на мельнице шелухой. Юрсл., Ксл. Змалоў абдзёркі пудоў шэсьць. Юрсл.

**абіраньні́к, абіраньніца** — voter, elector, woman voter выборщик -ица. Гсл.

**абклада́нік** — sandwich бутерброд.

**аблога** — siege осада. Ё й іншыя значаньні слова „аблога".

**аблогам ляжаць** — to be seriously ill, быть тяжело больну. Жонка аблагам ляжала. Міх.

**абложны** (праз хваробу) — 1. chronic, confining to bed (illness) заставляющий долго, не вставая, лежать в постели. Нсл. 348. У яго абложная хвароба, няборзда ачуняе. Нсл. — 2. (праз дождж) — protracted, затягивающийся на долгое время. Дсл., затяжной (дождь). Пайшоў абложны дождж. Дсл.

Ня ўсі значаньні слоў падаюцца тут, але толькі патрабнейшыя ў вумовах эмігранцкіх. Звычайна ля кажнага слова паказана месца запісу; калі слова запісана ў малой мясцовасьці (сяле, местачку), тады звычайна падаецца й павет або раён тае мясцовасьці. Калі слова выпісана з кнігі і пад., тады ў дужках падаецца з чаго выпісана. Гэта, казаў той, мэтрыка слоў, падаецца скарачэньнямі. Дагэтуль ужыты наступныя скарачэньні:

**Гсл.** — М. Гарэцкі: Невялічкі Беларуска-Маскоўскі слоўнік, выд. 2-ое, у Вільні 1921 г.

**Дсл.** — В. Добровольский: Смоленский областной словарь, у Смаленску 1914 г.

**Ксл.** — М. Касьпяровіч: Віцебскі краёвы слоўнік.

**Міх.** — сяло Міхалкавічы Лагойскага павету.

**Нсл.** — Беларускі слоўнік І. Насовіча.

**Ст.** — Сяло Старына Ігуменскага пав., словы выпісаны із слоўніка М. Шатэрніка.

**Сц.** — Слуцкі павет.

**Шсл.** — М. Шатэрнік: Краёвы слоўнік Чэрвеншчыны, у Менску 1929.

**Юрсл.** — Г. Юрчанка: Дыялектны слоўнік (з гаворак Імсьціслаўшчыны), у Менску 1966 г.

Ведама, словаў ужываюць ня толькі ў месцу іх запісу, але шырэй, звычайна па ўсім краю.

(Працяг будзе)

---

**АБЕСТКА.**



---

Радактар: Dr. P. Markouski Editor
Адрыс: 204 State Highway, 18
East Brunswick, N. J. 08816 USA

Цана 50 ц. Price 50 ¢